# Голас Радзімы

№ 2 (2040)
14 студзеня 1988 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.

**У Мінску ў Палацы мастацтва адкрыта рэспубліканская выстаўка наглядadd агітацыі і плаката, на якой прадстаўлены плакаты, макеты, эскізы, габелены, праекты будучых архітэктурных комплексаў і фатаграфіі ўжо існуючых.**

**Увагу фотакарэспандэнта Я. КАЗЮЛІ прыцягнуў беларускі плакат, лепшыя ўзоры якога экспанаваліся на ўсесаюзных і міжнародных выстаўках. Так, у 1986 годзе мінскія мастакі У. Цеслер, С. Войчанка і А. Шалюта атрымалі Гран пры на XI Міжнародным біенале ў Варшаве і спецыяльную прэмію генеральнага сакратара ААН.**

**Адным з заснавальнікаў палітычнага плаката на Беларусі быў К. Каганец, які ў час рэвалюцыі 1905—1907 гадоў стварыў шэраг малюнкаў на палітычныя тэмы. Беларускі плакат першых паслярэвалюцыйных гадоў прапагандаваў ідэі сацыялізму, клікаў на абарону заваёў рэвалюцыі. Узнімалі на барацьбу, мабілізоўвалі плакаты часоў Вялікай Айчыннай вайны. Шырокая, разнастайная тэматыка сучаснага беларускага плаката. На выстаўцы прадстаўлены работы, прысвечаныя барацьбе за мір, ахове навакольнага асяроддзя і помнікаў гісторыі і культуры нашага народа. Мастацтва мовай плаката заклікана імгненна адгукацца на ўсе важнейшыя праявы палітычнага, эканамічнага, культурнага жыцця. Сучасны беларускі плакат не выключэнне. На выстаўцы прадстаўлены работы, якія вітаюць перабудову, выкрываюць і асуджаюць заганныя з'явы, якія перашкаджаюць нашаму руху наперад.**

**НА ЗДЫМКАХ: у зале выс[illegible]і; работы беларускіх мастакоў А. ОТЧЫКА, В. МУРАШКІ і В. ЖУКА.**









БЕЛАРУСЬ — ГДР

## ДАГАВОР СЯБРОЎ

Некалькі гадоў назад група энергетыкаў з горада Вайсвасеера, дзе знаходзіцца буйнейшая ў ГДР цеплаэлектрастанцыя, пабывала ў Брэсцкай крэпасці. Нямецкія рабочыя вырашылі змагацца за прысваенне адной з брыгад імя абаронцы цытадэлі над Бугам Аляксея Наганава.

Наладзілася перапіска з адной з рабочых брыгад Брэсцкага завода газавай апаратуры, члены якой уключылі ў свой калектыў Наганава і штомесяц пералічваюць зробленыя за яго грошы ў Савецкі фонд міру. Нядаўна па запрашэнню сяброў брэстаўчане пабывалі ў ГДР. У час візіту быў падпісаны дагавор аб сацыялістычным спаборніцтве паміж нямецкімі і савецкімі рабочымі.

НАВУКОВЫЯ РАСПРАЦОЎКІ

## ЯКАСЦЬ ГАРАНТАВАНА

Значна хутчэй попыту на заўсёды модны лён растуць патрабаванні да яго якасці. Але ступень спеласці, колер валакна або трасты, іх ломкасць і многае іншае перапрацоўшчыкі вызначаюць пакуль што дзедаўскім спосабам — «на вока».

Ім дапамаглі фізікі, прапанаваўшы адчувальныя аптычныя прыборы «Лён», якія дзейнічаюць па прынцыпу неразбуральнага кантролю. З дапамогай арыгінальных фільтраў і лінз, створаных у лабараторыі інфрачырвоных прамянеў і малекулярнага спектральнага аналізу Інстытута фізікі АН БССР, лёгка разглядзець састаў даследуемага рэчыва і высветліць яго хімічныя і фізічныя ўласцівасці. Спецыялісты, нарэшце, могуць праводзіць абсалютна дакладную комплексную экспрэс-ацэнку льну. Мала таго, з дапамогай навінкі вызначыць якасць выробленых з гэтай сыравіны тэкстыльных матэрыялаў, а таксама шэрсці, шоўку і баваўны.

Поўнае асваенне толькі дзвюх навінак «Лён-1» і «Лён-2» у тэкстыльнай прамысловасці і галіне пярвічнай перапрацоўкі льну дасць гадавы эканамічны эфект 30 мільёнаў рублёў.

САЦЫЯЛЬНАЕ РАЗВІЦЦЁ

## ПАЧАТАК БІЯГРАФІІ

На маляўнічым беразе Дняпра ў Жлобіне пачалася забудова самага вялікага ў горадзе мікрараёна. Тут будзе пражываць звыш 14 тысяч жыхароў. У комплексе з жылымі дамамі прадугледжваецца ўзвядзенне дзвюх агульнаадукацыйных школ, трох дашкольных дзіцячых устаноў з плавальным басейнам кожны, Дома быту на 200 рабочых месцаў, гандлёвага цэнтра, аптэкі, аддзялення сувязі і іншых устаноў абслугоўвання насельніцтва.

Набор кватэр у мікрараёне вызначаны з улікам дэмаграфічнага саставу сем'яў, якія стаяць у чарзе на атрыманне жылля.

Забудова новага мікрараёна ажыццяўляецца за кошт сродкаў Беларускага металургічнага завода. Толькі летась для працоўных гэтага прадпрыемства ўзведзена 32 тысячы квадратных метраў жылля, а ўсяго за гады пяцігодкі — каля 200 тысяч квадратных метраў.

ТВОРЧАСЦЬ МАЛАДЫХ

## ТЭЛЕВІЗАР НА ЗАЎТРА

Творчай групай мінскага вытворчага аб'яднання «Гарызонт» распрацаваны доследны ўзор аналага-лічбавага тэлепрыёмніка з мікрапрацэсарным кіраваннем. Маладыя энтузіясты пад кіраўніцтвам таленавітага інжынера Ігара Федасені стварылі мадэль, якая вызначаецца цікавым дызайнам, паменшанай энергаёмістасцю, высокай надзейнасцю.

Ужо к канцу бягучай пяцігодкі «Гарызонт» пяройдзе на выпуск новай базавай мадэлі тэлепрыёмнікаў. Работа гэта няпростая, таму што айчынная электроніка яшчэ не гатова да выпрабу патрэбных прадпрыемству мікраблокаў. Таму тут стварылі ўласную электронную вытворчасць. Для паскарэння яе асваення вядуцца перагаворы з замежнымі фірмамі аб сумесным выпуску на «Гарызонце» новых мікрасхем.

КААПЕРАТЫВЫ

## ЭЛЕКТРОННЫ ПАМОЧНІК

Дастаткова націснуць кнопку на пульце кіравання камп'ютэра, каб атрымаць на экране дысплея максімум неабходнай інфармацыі аб спартыўным жыцці Брэстчыны. Надзейны электронны памочнік, названы распрацоўшчыкамі універсальнай інфармацыйна-адлюстроўваючай сістэмай «Старт», з'явіўся ў абласным спорткамітэце.

Яго вырабілі члены маладзёжнага кааператыва «Фатон», у якім аб'ядналіся канструктары, інжынеры, рэгуліроўшчыкі ра апаратуры Брэсцкага вытворчага а днання сродкаў вылічальнай тэхнікі. Зыходнымі матэрыяламі сталі адходы і другасная сыравіна, якія кааператыў купляе ў магазінах і ў прамысловых прадпрыемстваў.

ДАКУМЕНТА ЧАЕ КІНО

## У АБ'ЕКТЫВЕ — ЗАВОДСКІ ЦЭХ

Юпітэры асвяцілі адзін з участкаў цэха доследнай вытворчасці Мінскага трактарнага завода. Знятыя тут кадры ўвойдуць у новую поўнаметражную каляровую дакументальную кінастужку. Яе здымкі па заказу Дзяржтэлерадыё СССР вядуць на МТЗ кінематаграфісты Цэнтральнай студыі дакументальных фільмаў. Задача, якую ставіць рэжысёр-пастаноўшчык карціны Валерый Бабкоў, — паказаць, як ідзе перабудова ў краіне. Расказаць аб яе праблемах, аб тых негатыўных з'явах, якія перашкаджаюць руху наперад.

КОНКУРСЫ

## РАЗЛЯЦЕЛІСЯ «СНЯЖЫНКІ»

Два дні кружылася «мяцеліца» ўсесаюзнага свята бальнага танца «Віцебскія сняжынкі» на сцэне Дома культуры чыгуначнікаў. Ён сабраў удзельнікаў з многіх саюзных рэспублік. У конкурснай праграме па трох раздзелах — еўрапейскія, лацінаамерыканскія і савецкія танцы — выступілі больш за шэсцьдзесят пар і калектываў.

Па ўсёй краіне разляцеліся «Віцебскія сняжынкі»: прызы адправіліся ў Рыгу, Крэмянчуг, на Палтаўшчыну. Мясцовым прыхільнікам танцавальнага мастацтва засталася радасць ад сустрэч з майстрамі, а маладой віцебскай школе бальнага танца яшчэ і надзея на больш удалыя выступленні яе выхаванцаў — свята вырашана зрабіць традыцыйным.

ДОМ БЫТУ



Яшчэ адна новабудоўля з'явілася ў старажытным Мазыры. Адчыніў дзверы для жыхароў горада і раёна новы Дом быту. Каля дваццаці відаў паслуг прапануе ён кліентам.
НА ЗДЫМКУ: новы Дом быту ў Мазыры.

УЗНАГАРОДЫ

## ДЫПЛОМ ЗА КНІГІ

Чвэрць стагоддзя выпускае кнігі і брашуры па розных галінах сельскай гаспадаркі выдавецтва «Ураджай». У іх расказваецца аб цікавых людзях вёскі, навуковым пошуку на сельскай ніве, асвятляецца вопыт лепшых сельскіх працаўнікоў. Выданні нярэдка адзначаюцца на ўсесаюзных і рэспубліканскіх конкурсах і выстаўках. Нядаўна калектыў выдавецтва ўзнагароджаны дыпломам ВДНГ СССР І ступені за глыбокае раскрыццё ў кнігах актуальных тэм, іх высокае мастацкае афармленне. Медалямі ВДНГ СССР адзначаны некаторыя работнікі выдавецтва «Ураджай».

СПАДЧЫНА

## ВЯРТАННЕ Ў ЗДРАЎНЕВА

З запаснікаў Траццякоўкі да месца свайго «нараджэння» вярнуліся малюнкі алоўкам выдатнага рускага мастака Ільі Рэпіна. Пад ным з іх, дзе адлюстраваны засі ны схіл і гуллівыя коні, якія спускаюцца да вадапою, рэпінскай рукой пазначана: «4.01.1895 г., Здраўнева, пад Віцебскам». Свае ўражанні можна тут жа зверыць з арыгіналам, не сыходзячы з парога аднаўляемага асабняка на беразе Дзвіны — былой ачы мастака.

ПОМНІКІ

## У ГОНАР 1812 ГОДА

У мемарыяльным парку пасёлка Плешчаніцы на Мінщчыне нядаўна ўстаноўлены вялікі валун з мармуровай плітой. На ёй надпіс: «17,19—21 лістапада (стары стыль) 1812 года ля мястэчка Плешчаніцы руская армія пад камандаваннем фельдмаршала М. І. Кутузава нанесла паражэнне галоўным сілам адступаючых войск імператара Напалеона».

Ураджэнец тутэйшых мясцін падпалкоўнік запасу член ваенна-навуковага таварыства В. Даўжонак даўно зацікавіўся тым, чаму лесапаркавую зону каля гарадскога пасёлка Плешчаніцы мясцовыя жыхары называюць Паркам 1812 года. Карпатлівая работа ў архівах памагла ўзнавіць яшчэ адну слаўную старонку нашай гісторыі. Аказалася, што тут адбылася апошняя буйная бітва з арміяй Напалеона, якая бясслаўна адступала з Расіі.

МАЙСТЭРСТВА

## КАЛГАСНЫЯ МАСТАКІ

Шмат заказаў ад арганізацый, прадпрыемстваў і школ Салігорскага раёна на выкананне мастацкіх вырабаў паступае ў майстэрню народных промыслаў калгаса «40 год БССР». Хоць яна існуе ўсяго другі год, але яе прадукцыя — чаканка, разьба па дрэву, ганчарныя вырабы, мастацкае вязанне — карыстаецца шырокім попытам.

У майстэрні працуюць шэсць чалавек. Чацвёра з іх — выпускнікі Мінскага мастацкага вучылішча імя Глебава. Кіраўнік калектыву У. Канонік летась стаў лаўрэатам прэміі Ленінскага камсамола Міншчыны за мастацкае афармленне Чапялёўскага краязнаўчага музея. Праўленне калгаса стварыла для плённай работы мастакоў усе ўмовы.

Добрыя магчымасці для праяўлення сваіх здольнасцей, эстэтычнага выхавання майстэрня прадастаўляе для юных жыхароў. Створаны пры ёй гурток прыкладнога мастацтва ахвотна наведваюць вучні старэйшых класаў Доўгаўскай сярэдняй школы.

ГІДРАБУДАЎНІЦТВА



Летась пачалося запаўненне унікальнага Днепра-Брагінскага вадасховішча, разлічанага на арашэнне дзевятнаццаці тысяч гектараў зямель Брагінскага, Лоеўскага і Рэчыцкага раёнаў. На вышыню 27 метраў агрэгаты падымаюць з Дняпра больш за дванаццаць кубаметраў вады ў секунду. Плошча вадасховішча складае 968 гектараў. Яно ўмесціць амаль 43 мільёны кубаметраў вады.
НА ЗДЫМКУ: дняпроўская вада пайшла ў новае вадасховішча.

ТРАДЫЦЫІ

## ГАДЗІННІК НА ВІЦЕБСКАЙ РАТУШЫ

Музычнай фразай з песні «Радзіма мая дарагая» адгукнуўся ў навагоднюю ноч на бой Крамлёўскіх курантаў старадаўні гадзіннік з былой гарадской ратушы ў Віцебску. Не дачакаўшыся заканчэння рэканструкцыі будынка, ён зноў «падаў голас», адзначаючы кожную шостую гадзіну сутак боем і музыкай.

Больш за два стагоддзі кружаць па цыферблату ўпартыя стрэлкі хранометра. І нават прамое пападанне фашысцкага снарада ў гады Вялікай Айчыннай вайны толькі прыпыніла іх бег: пасля вызвалення Віцебска мясцовы гадзіншчык С. Юшкоўскі наладзіў і запусціў механізм.

Над адраджэннем адной са славутасцей горада на Дзвіне «чаравалі» ўмельцы з завода гадзіннікавых дэталей, іх мінскія калегі і гадзіннікавых спраў майстры з Арменіі. Ганаровая пасада галоўнага наглядчыка курантаў даверана электрамантажніку Аляксандру Іванову. І гэта не дзіўна: старадаўнімі стрэлкамі сёння ўпэўнена камандуе электроніка.

ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

БАРЫСАЎ. У Зачысценскай сярэдняй школе ўжо шмат гадоў існуе традыцыя: рэгулярна пералічваць сродкі ў Савецкі фонд міру. Вось і нядаўна вучні дзесяцігодкі пералялі на яго рахунак частку грошай — амаль 200 рублёў, якія яны зарабілі на сельгасработах у мясцовым саўгасе «Боркі».

А настаўнікі пералічылі ўсю сваю заработную плату за адзін працоўны дзень.

НАВАГРУДАК. Канцэртам у Пятрэвіцкай сярэдняй школе заявіла аб сваім нараджэнні дзіцячая філармонія, створаная ў Навагрудку. У праграме, падрыхтаванай юнымі артыстамі, гучалі творы для домры, баяна, цымбалаў, аркестра. Маршрут першых гастролей філармоніі юных пройдзе цераз Налібокі, Любчу, іншыя населеныя пункты раёна.

АКЦЯБРСКІ. Стартамі спартакіяды мясцовай моладзі адзначана ў гарадскім пасёлку нараджэнне новага стадыёна. Яго размясцілі ў маляўнічым месцы недалёка ад штучнага возера. За падзеямі на спартыўнай арэне могуць адначасова назіраць дзве тысячы чалавек.

ГОРКІ. Хор калгаса «XVII партз'езд» Горацкага раёна добра вядомы ў Магілёўскай вобласці. Аматарскі калектыў — пераможца абласнога этапа другога Усесаюзнага фестывалю народнай творчасці, прысвечанага 70-годдзю Вялікага Кастрычніка. Прэмію 950 рублёў калгасныя спевакі вырашылі пералічыць у адрас Савецкага дзіцячага фонду імя У. І. Леніна.

### З ГІСТОРЫІ ПРЫРОДАКАРЫСТАННЯ

# ЭКАЛАГІЧНЫ БУМЕРАНГ

Гісторыя прыродакарыстання на Беларусі налічвае некалькі дзесяткаў тысяч гадоў і бярэ пачатак ад перыяду засялення яе тэрыторыі першабытным чалавекам. У сувязі з пастаянным ростам уздзеяння чалавека на прыроду імкненне зберагчы яе было ўласціва народнай свядомасці яшчэ на першых этапах станаўлення грамадства. Заўсёды ў жыцці беларусаў прыкметную ролю адыгрывалі такія традыцыйныя віды прыродакарыстання, як збор грыбоў, ягад, арэхаў і лекавых раслін, рыбалоўства і паляванне. Таму ў народных традыцыях і свядомасці захавалася шмат правіл ашчаднага, пачцівых адносін да прыроды, стыхійна выпрацаваных прынцыпаў рацыянальнага выкарыстання яе багаццяў.

Да нашага часу на Беларусі бытуюць так званыя этыялагічныя міфы — старажытныя паданні, якія тлумачаць паходжанне ці ўласцівасці розных прыродных з'яў і аб'ектаў. Яны ўзніклі як вынік першых спроб асэнсавання чалавекам навакольнага прыроднага асяроддзя. Недахоп фактычных ведаў чалавек кампенсаваў фантазіяй, ствараючы карціну аб'ектаў і сіл прыроды па аналогіі з рэальным жыццём старажытнага грамадства. Прадметамі міфалагізацыі, а пазней і рэлігійнага ўшанавання сталі сонца, месяц, зоркі, вада, агонь, расліны, жывёлы і г. д. Разнастайныя міфалагічныя сюжэты знайшлі сваё адлюстраванне ў багатым беларускім фальклоры — казках, замовах, абрадавай паэзіі — і шырока выкарыстоўваюцца ў сучаснай мастацкай літаратуры.

Заканадаўчыя абмежаванні на выкарыстанне асобных прыродных рэсурсаў, асабліва паляўнічых, вядомы з часоў Кіеўскай Русі. Ужо ў зборы старажытнарускага права «Русская праўда» гаварылася пра абмежаванні на промысел дзікіх звяроў і птушак і ўстанаўліваліся штрафы за незаконную іх здабычу. Пазней палажэнні аб парадку карыстання лесам, паляўнічымі ўгоддзямі, рыбнымі багаццямі былі ўключаны ў Статуты Вялікага княства Літоўскага (1529, 1566 і 1588 гадоў) і ва «Уставу на валокі» (1557 год); гэтымі ж дакументамі рэгуляваліся меры пакарання за парушэнне правіл карыстання некаторымі іншымі відамі прыродных багаццяў. У 1541 годзе ў лясах Белавежскай пушчы быў створаны першы паляўнічы заказнік. Аднак прыродаахоўныя мерапрыемствы таго часу мелі часткова характар і задавальнялі інтарэсы перш за ўсё пануючых класаў. Землеўпарадкавальныя работы, праведзеныя ў XVI—XVII стагоддзях, умацавалі зямельную ўласнасць феадалаў і садзейнічалі бескантрольнасці прыродакарыстання.

Развіццё прадукцыйных сіл на Беларусі ў XVII—XIX стагоддзях павялічыла хаатычнасць выкарыстання прыродных багаццяў, што прымусіла ўлады прыняць заканадаўчыя акты аб зберажэнні лясоў, рыбных нерасцілішчаў, аб рэгуляванні палявання. У 1802 годзе выдадзены ўказ аб ахове і ўліку зуброў, у 1867-м былі пачаты работы па аднаўленню ў Белавежскай пушчы папуляцыі высакароднага аленя. У 1873 годзе пачала дзейнасць Заходняя экспедыцыя па асушэнню балот Палесся пад кіраўніцтвам рускага вучонага-геадэзіста І. Жылінскага. Пытанні аховы прыроды Беларусі асвятляліся ў працах многіх вядомых вучоных: А. Ваейкава, А. Гедройца, Ю. Пачоскага, Г. Танфільева, У. Шафера і іншых.

Але стыхійнае развіццё капіталістычнай гаспадаркі наносіла прыродзе Беларусі велізарныя, часам незваротныя страты: памяншалася лясістасць тэрыторыі, паніжаўся ўзровень грунтовых вод, мя[illegible]і рэкі, менш станавілася д[illegible] звяроў, зніжалася ўрадлівас[illegible] сельскагаспадарчых угоддзяў, развівалася эрозія глеб. Высякаліся вялікія плошчы лясоў, пры гэтым значная колькасць лясной сыравіны нерацыянальна выкарыстоўвалася на паліва, бяднела паляўніча-п[illegible]ысловая фауна. Вялікую шк[illegible] прыродзе нанеслі войны, якія спусташальнымі валамі неаднаразова пракатваліся па тэрыторыі Беларусі.

З перамогай Вялікага Кастрычніка і ўсталяваннем сацыялістычных грамадскіх адносін у рэспубліцы пачалася планамерная і мэтанакіраваная работа па ўдасканаленню ўсяго комплексу прыродакарыстання. Яна грунтавалася на першых дэкрэтах Савецкай улады, у адпаведнасці з якімі былі прыняты зямельны, лясны і водна-меліярацыйны кодэксы БССР, пастанова Савета Народных Камісараў БССР аб ахове помнікаў старажытнасці, народнага побыту і прыроды і шэраг іншых важных прыродаахоўных дакументаў. Пачаліся работы па глеба- і лесаўпарадкаванню, аднаўленню лясоў і асушэнню балот, прымаліся захады па рэгуляванню рыбалоўства. Значную ролю ў арганізацыі дзейснай аховы прыроды ў рэспубліцы адыгралі Цэнтральнае бюро краязнаўства, Беларускі паляўнічы саюз, часопісы «Наш край», «Паляўнічы Беларусі».

Для аховы і развядзення каштоўных дзікіх звяроў і птушак у 1925 годзе па праекту вядомага беларускага заолага А. Фядзюшына быў створаны Бярэзінскі дзяржаўны запаведнік. З мэтай аховы жывёльнага свету ў 1926—1931 гадах была ўстаноўлена забарона вясенняга палявання, пад асобую ахову ўзяты лось, бабёр, казуля, мядзведзь, драфа і шэраг іншых відаў рэдкіх і каштоўных жывёл. Усе лясы ў БССР у 1936 годзе былі аднесены да катэгорыі водаахоўных, па берагах галоўных рэк (Днепр, Заходняя Дзвіна, Нёман, Сож) вылучаны палосы асабліва важных водаахоўных насаджэнняў.

Ствараліся новыя запаведнікі — Вялаўскі ў Налібоцкай пушчы і Белавежская пушча.

Вялікія страты панесла прырода Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны, калі нямецка-фашысцкія акупанты бязлітасна рабавалі і народ, і прыродныя багацці: знішчаліся лясы (у 1945 годзе лясістасць тэрыторыі знізілася да найменшага паказчыка за ўсю гісторыю краю — 21,5 працэнта), спынілася дзейнасць запаведнікаў, былі разбураны гідратэхнічныя збудаванні, знішчаны матэрыялы навуковых даследаванняў.

З першых пасляваенных гадоў, нягледзячы на велізарныя страты і неабходнасць як мага хутчэй аднавіць гаспадарку, праблемам аховы прыроды надаецца неаслабная ўвага: адноўлены запаведнікі, асвоены севазвароты, якія садзейнічаюць зберажэнню і павышэнню ўрадлівасці глеб, прымаюцца ўсе меры па ахове атмасферы і вадаёмаў, паляпшэнню санітарна-гігіенічных умоў населеных пунктаў, разгорнуты работы па лесааднаўленню і меліярацыі, працуюць органы рыбааховы і лясной гаспадаркі. Заканадаўчае і дзяржаўнае рэгуляванне пашыралася на ўсе віды прыродакарыстання — у 1960 годзе створаны Дзяржаўны камітэт БССР па ахове прыроды.

Асаблівае значэнне ва ўзмацненні прыродаахоўнай работы ў БССР мела пашырэнне і паглыбленне экалагічных ведаў у спецыялістаў народнай гаспадаркі. Такая неабходнасць стала асабліва актуальнай у пачатку 60-х гадоў, калі ў краіне і рэспубліцы пачаўся пераход да інтэнсіўных форм гаспадарання. Барацьба за эканомію і беражлівасць, пошукі аптымальных спосабаў выкарыстання сыравіны і матэрыялаў патрабавалі павышанай увагі да праблем рацыянальнага выкарыстання прыродных рэсурсаў.

На пачатку 60-х гадоў на Беларусі была толькі адна грамадская арганізацыя, часткова звязаная з аховай прыроды,— Беларускае таварыства паляўнічых і рыбаловаў. Яно займалася пераважна пытаннямі аховы, рацыянальнага выкарыстання і ўзнаўлення дзікіх звяроў і птуша[illegible]жнай падзеяй у развіцці [illegible]мадскай экалагічнай свядомасці на Беларусі з'явілася прыняцце ў 1961 годзе Закона аб ахове прыроды ў БССР. У ходзе абмеркавання праекта гэтага закона былі выказаны шматлікія пажаданні працоў[illegible]х аб стварэнні грамадск[illegible]'яднанняў, якія займаліся [illegible] усім комплексам прыродаахоўных задач і далучалі да іх вырашэння шырокія слаі насельніцтва. Пачалі ўзнікаць розныя гурткі, саветы і іншыя аб'яднанні па ахове прыроды. А ў 1962 годзе было прызнана мэтазгодным стварэнне добраахвотнага таварыства аховы прыроды.

Галоўнай задачай Беларускага таварыства аховы прыроды, адпаведна яго статуту, з'яўляецца прапаганда пытанняў аховы прыроды, палажэнняў прыродаахоўнага заканадаўства і ведаў аб прыродзе, далучэнне насельніцтва да практычнага ўдзелу ў ахове і ўзнаўленні прыродных рэсурсаў. Пачалося інтэнсіўнае разгортванне ўсіх форм прыродаахоўнай адукацыі, якая стала масавай.

Пытаннямі аховы прыроды пачалі займацца пастаянныя камісіі мясцовых Саветаў, адначасова пры міністэрствах і ведамствах ствараліся такія новыя грамадскія падраздзяленні, як навуковыя і тэхнічныя саветы. У ліку першых у 1966 годзе пры Акадэміі навук БССР быў створаны навуковы савет «Праблемы комплекснага выкарыстання прыродных рэсурсаў і развіцця прадукцыйных сіл Палескай нізіны», у склад якога ўвайшлі 12 акадэмікаў і членаў-карэспандэнтаў АН БССР, 17 дактароў навук, больш за 150 кандыдатаў навук і вядомых спецыялістаў-практыкаў. Рэкамендацыі савета былі ўлічаны пры стварэнні ў 1969 годзе Прыпяцкага ландшафтна-гідралагічнага запаведніка. Ён названы ландшафтна-гідралагічным таму, што ў ім ахоўваюцца і вывучаюцца ўсе кампаненты прыроднага ландшафту, але галоўным з'яўляецца вывучэнне праблем, звязаных з шырокім праведзеннем гідрамеліярацыйных работ. Гэта першы ў СССР запаведнік з такім напрамкам даследаванняў.

У 1981 годзе прыняты закон БССР аб ахове атмасфернага паветра і аб ахове і выкарыстанні жывёльнага свету. Адпаведна гэтым дакументам у БССР рэалізуецца шырокая праграма рацыяналізацыі адносін да прыроды, якая грунтуецца на адзіным, збалансаваным і адказным кіраванні ўзаемадзеяння сацыяльных і прыродных працэсаў, на канстытуцыйных прынцыпах аховы прыроднага асяроддзя. Адной з галоўных мэт гэтай праграмы з'яўляецца выхаванне экалагічнай культуры новага грамадства. На змену характэрнаму для мінулых этапаў грамадскага развіцця ўтылітарна-спажывецкаму падыходу да прыроды, што пры сучасным узроўні прадукцыйных сіл вядзе да падрыву яе ўзнаўленчых сіл, ідзе навуковая канцэпцыя гарманізацыі ўзаемаадносін грамадства і прыроды. Яна грунтуецца на ўсведамленні іх непарыўнага адзінства, усведамленні таго, што любая шкода, нанесеная прыродзе, ператвараецца ў «экалагічны бумеранг» і наносіць шкоду самім людзям.

**Віктар МАЗОЎКА.**

---

*ПІСЬМЫ ЗБЛІЗКУ*

# ШЛЯХ РАБОЧАГА ЧАЛАВЕКА

З Віктарам Юшковым, рабочым вытворчага аб'яднання «Электрамодуль», што ў беларускім горадзе Маладзечна, пазнаёміўся некалькі гадоў назад на сустрэчы лепшых работнікаў, дзе яны абменьваліся сваім прафесійным вопытам. Было што расказаць і яму, слесару рамонтна-механічнага цэха прадпрыемства. З таго часу прайшло каля дзесяці гадоў, і я з цікавасцю назіраю за яго далейшым прафесійным станаўленнем, хаця ведаю: не так ужо і лёгка яно даецца.

...Памяць Віктара Рыгоравіча захоўвае толькі асобныя эпізоды аб самым блізкім чалавеку — маці. Яна рана памерла. Бацьку і наогул не помніць. Так Віктар апынуўся ў дзіцячым доме пад Ленінградам. Дзякуючы Савецкай дзяржаве, дзеці, якія страцілі бацькоў, не застаюцца без увагі і клопату. Вось і Віктар быў на поўным бясплатным забеспячэнні. Вучыўся ў школе, Выбаргскім рамесным вучылішчы. Як і ў многіх дзяцей падобнага лёсу, у Віктара было адно гарачае жаданне — хутчэй самастойна стаць на ногі, пайсці на свой хлеб. Атрымаўшы спецыяльнасць слесара па рамонту прамысловага абсталявання, ён па накіраванню паехаў у горад Палярны. Хацелася як мага хутчэй выпрабаваць сябе.

— У няпоўныя васемнаццаць гадоў, — расказвае Віктар Рыгоравіч, — рамантаваў караблі. Цікавая была работа!

Але юнацкі запал патрабаваў новага, нязведанага. І Віктар працаваў матарыстам, пазней — механікам судна. Здружыўся з таварышамі. Так прайшлі шаснаццаць гадоў. Там уступіў у Камуністычную партыю. Быў удастоены першай урадавай узнагароды — медаля «За доблесную працу. У азнаменаванне 100-годдзя з дня нараджэння У. І. Леніна».

Для савецкага чалавека заўсёды цікава меркаванне іншых. І для Юшкова людская думка і ёсць той своеасаблівы маральны барометр, па якім ён звярае свае ўчынкі. Ці не замітусіўся, ці не збочыў са сваёй дарогі...

— Віктар Рыгоравіч — адзін з нашых лепшых рабочых, — так сказаў пра яго фрэзероўшчык Пётр Нікіцін. — Усім нам вельмі імпануюць яго працавітасць і ўважлівасць да іншых, гаспадарлівасць, прынцыповасць ва ўзаемаадносінах з таварышамі і з адміністрацыяй прадпрыемства.

Віктар Юшкоў, апрача асноўнай прафесіі, дасканала валодае сумежнымі спецыяльнасцямі: токара, фрэзероўшчыка, шліфавальшчыка. Дарэчы, у цэху нямала рабочых такой высокай кваліфікацыі. Відаць, гэта адна з прычын, што аўтатрактарныя блокі, якія тут выпускаюцца, карыстаюцца попытам і ў спажыўцоў Савецкага Саюза, і за мяжой — у Італіі, ФРГ, Швецыі, Нарвегіі, Фінляндыі.

Ёсць і яшчэ адна справа на заводзе, якая стала для Віктара Юшкова, вопытнага рабочага, вельмі важнай. Ён выбраны старшынёй савета настаўнікаў цэха. Работу з моладдзю лічыць сваім грамадзянскім абавязкам. Дарэчы, абавязкаў у Віктара Рыгоравіча, узятых, між іншым, добраахвотна, нямала. Чалавек па натуры дысцыплінаваны, Юшкоў цярпець не можа расхлябанасці, нядбайнасці, таму яго ўдзел у рабоце грамадскага кантралюючага органа — групе народнага кантролю, таксама не выпадковы. Яму давяраюць, з яго думкай лічацца. Нездарма слесар Віктар Юшкоў выбраны ў гарадскі Савет, орган мясцовай улады. Па працы, як кажуць, і гонар: медаль «За працоўную доблесць», ордэн Дружбы народаў. Імя Юшкова ўпісана ў Кнігу гонару прадпрыемства. Бадай, не пералічыць усе заахвочванні. Ды і не галоўнае гэта. Важна павага, якой карыстаецца ў грамадстве рабочы чалавек.

Ну, а што ж чакае яго пасля працоўнай змены? Сям'я: жонка, дзеці. Дачка ўжо амаль дарослая, скончыла сярэднюю школу, працуе і адначасова рыхтуецца да паступлення ў інстытут. У сына-сямікласніка клопатаў пакуль менш, чым у сястры. Ён, як і бацька, заўзяты спартсмен — займаецца ў футбольнай секцыі. Два разы на тыдзень бацька з сынам наведваюць басейн спартыўнага комплексу «Маладосць». Віктар Рыгоравіч, нягледзячы на гады (а яму за сорак), не прапусціць на заводзе ніводнага спартыўнага мерапрыемства. Валейбол, баскетбол, лыжы — даўняе захапленне. А летам яго спадарожнікам становіцца веласіпед. Нярэдка бачаць В. Юшкова і ў школе, дзе вучыцца сын. Яму цікава, як ідуць там справы, чым жыве клас, якія праблемы трэба вырашаць. А на яго дапамогу заўсёды можна спадзявацца.

Складана пачынаўся жыццёвы шлях Віктара Юшкова. Няпроста складваўся ён і далей. Але адно́ўсё абраны, прывёў да поспеху. Віктар Юшкоў упэўнены ў сабе, сваёй справе. А гэта цудоўнае адчуванне, калі ў працы знаходзіш задавальненне, радасць. Такое пачуццё дорыць шчасце.

**Аркадзь ЖУРАЎЛЁЎ.**





Дома Саша раней рэдка прыбіраў у кватэры. А калі разам з аднакласніцамі Аксанай Круцько і Таняй Кузьміч па тэлефоннаму выкліку прыйшоў да ветэрана Вялікай Айчыннай вайны Юрыя Цвяткова, самую цяжкую працу — мыццё падлогі — узяў на сябе. А дзяўчынкі ў гэты час выціралі пыл на падаконніках, мэблі, мылі посуд, а затым збегалі за прадуктамі ў магазін. Шчырая падзяка пажылога адзінокага чалавека была вышэйшай узнагародай для сямікласнікаў, прыдала ім жадання яшчэ больш актыўна працаваць у школьным бюро добрых паслуг.

Вось ужо каля месяца жыхары вуліцы Асаналіева і бліжэйшых жылых масіваў Мінска звоняць у сярэднюю школу № 11, дзе з 15 да 19 гадзін прымаюцца заяўкі на прыбіранне кватэры, дастаўку прадуктаў і лякарстваў, догляд малых дзяцей. Калі на дзвярах пад'ездаў з'явіліся першыя аб'явы аб рабоце школьнага бюро паслуг, дарослыя ўспрынялі задуму моладзі з некаторым недавер'ем.

Дзецям давялося спачатку самім хадзіць па кватэрах і прапаноўваць дапамогу старым, інвалідам, ветэранам Вялікай Айчыннай вайны і працы. Цяпер заяўкі на паслугі паступаюць кожны дзень.

**НА ЗДЫМКАХ:** прыглядзець за малышом Андрэйкам **ВОДЫКАМ** даверана дзевяцікласніцы Алe **ГУЛІНСКАЙ**; рады гасцям ветэран вайны Юрый **ЦВЯТКОЎ**. Памагчы прыбраць яго кватэру прыйшлі сямікласніцы Таня **КУЗЬМІЧ**, Аксана **КРУЦЬКО** і Саша **АСАНАЁНАК**.

Фота Ю. ПАЎЛАВА.

## ВІНШУЮЦЬ ЗЕМЛЯКІ

Дарагія таварышы ў Беларускім таварыстве «Радзіма»! Прыміце сардэчныя віншаванні і найлепшыя пажаданні к Новаму, 1988 году! Няхай ён будзе годам дружбы, разбарэння і добрага ўзаемаразумення народаў усяго свету.

Шчасця і моцнага здароўя вам і вашым сем'ям жадаюць —Вім, Валя і дзеці **ВАН дер ГОФ-ГЛАЗЫЧАВЫ.**

Галандыя.

Дарагія нашы суайчыннікі! Жадаем вам і вашым сем'ям спаўнення ўсіх вашых жаданняў, моцнага здароўя і шчасця!

**Асацыяцыя савецкіх жанчын.**

Гана.

Шчыра жадаю вам, дарагія супрацоўнікі рэдакцыі газеты «Голас Радзімы», вясёлага і шчаслівага Новага года! Няхай ён прынясе на нашу планету поўнае раззбраенне і мір!

Аляксандр **КРАШАНІННІКАЎ.**

ЗША.

Віншуем вас з Новым годам! Жадаем вам, нашай роднай Беларусі ўсяго найлепшага. Вельмі прыемна бачыць, што, дзякуючы намаганням нашай Радзімы, становішча ў свеце становіцца больш спакойным. Вялікае ёй за гэта дзякуй! Хочам таксама падзякаваць вам за тое, што не забываеце нас, адарваных лёсам ад роднай зямлі. Паверце, якая радасць атрымаць газету і даведацца, чым дыхае родная Беларусь. Вельмі хочацца яшчэ прыехаць на Радзіму. Спадзяёмся, што нам гэта ўдасца.

Ірына і Аляксей **ГРЫЦУКІ.**

Канада.

Усім супрацоўнікам Беларускага таварыства «Радзіма» і газеты «Голас Радзімы» жадаем здароўя, шчасця і поспехаў у высакароднай дзейнасці па сувязях з суайчыннікамі на карысць міру і дружбы.

Галоўнае праўленне ФРК.
Сакратар Аляксандра **ЮРОЎСКАЯ.**

Канада.

Паважаныя таварышы ў Беларускім таварыстве «Радзіма» і рэдакцыі газеты «Голас Радзімы»!

Сардэчна віншую вас, увесь савецкі народ з Новым, 1988 годам. Жадаю вам усяго самага найлепшага. Дзякуй за газету і брашуры.

Марыя **МЕХАНОШЫНА.**

Аўстралія.

Жадаю ўсяму калектыву Беларускага таварыства «Радзіма» і рэдакцыі «Голасу Радзімы» шчаслівага новага года і найлепшых поспехаў ва ўсіх вашых справах.

Ганна **РЫБІНА.**

Канада.

Паважаныя супрацоўнікі таварыства «Радзіма»!

Дазвольце павіншаваць вас ад імя ансамбля «Калінка» і ад сябе асабіста з надыходзячым Новым, 1988 годам і пажадаць усім добрага здароўя, усмешак, вялікіх поспехаў у такой патрэбнай рабоце, як у вас, і, вядома, міру на нашай планеце!

Інеса **ФЕЕРМАН.**

Галандыя.

Шчыра віншую ўсіх работнікаў Таварыства «Радзіма» і газеты «Голас Радзімы» з надыходзячым Новым, 1988 годам і жадаю вам усім здароўя і поспехаў у вашай высакароднай рабоце.

З прывітаннем і найлепшымі пажаданнямі
Мікалай **ВАСІЛЕВІЧ.**

Канада.

Дарагія супрацоўнікі Таварыства «Радзіма» і рэдакцыі газеты «Голас Радзімы»!

Ад імя членаў і сяброў Руска-Славянскага культурнага таварыства сардэчна віншуем вас і ўвесь савецкі народ з Новым, 1988 годам!

Жадаем вам, вашым сем'ям і ўсяму савецкаму народу добрага здароўя, шчасця і поспехаў у вашай высакароднай дзейнасці ў імя сённяшняга і будучых пакаленняў, на карысць нашай сацыялістычнай Радзімы.

Са шчырай павагай
сакратар РСКТ
Мікалай **ХРАНКОЎ,**
старшыня жаночага
гуртка РСКТ
Ніна **ЧАРАПАНАВА.**

Аўстралія.

Сардэчна віншуем усіх супрацоўнікаў Таварыства «Радзіма» і рэдакцыі газеты «Голас Радзімы» з Новым, 1988 годам! Няхай ён будзе годам міру, любві і брацтва паміж народамі! Няхай ён будзе напоўнены радасцю і шчасцем!

Джо і Тамара **ШРАМОВІЧЫ.**

ЗША.

Жадаю мірнага і шчаслівага новага года супрацоўнікам рэдакцыі «Голасу Радзімы», усім беларусам, усяму савецкаму народу! Зычу вам добрага здароўя і поспехаў!

Мікалай **ЯНУШКЕВІЧ.**

Англія.

## Што? * Як? * Чаму?

**Кожнаму з нас даводзіцца час ад часу звяртацца да ўрача. У большасці капіталістычных краін візіт да ўрача, лячэнне ў бальніцы, аперацыя ператвараюцца ў вялікую праблему. Гэта патрабуе немалых грошай, а ёсць яны далёка не ў кожнага.**

**Відаць, таму наша сістэма агульнадаступнай і бясплатнай медыцынскай дапамогі выклікае асаблівую цікавасць у іншаземцаў, якія прыязджаюць у Беларусь.**

# КОЛЬКІ КАШТУЕ ВІЗІТ ДА ЎРАЧА?

Колькі каштуюць суткі знаходжання ў стацыянары бальніцы ці аперацыя?

Калі б вы задалі такія пытанні прахожаму на вуліцы, наведвальніку паліклінікі ці хвораму ў бальніцы, то наўрад ці атрымалі б на яго адказ. Мы не прывыклі задумвацца над гэтым, таму што ні за самую простую перавязку, ні за складанейшую аперацыю ў буйной спецыялізаванай клініцы мы не плацім ні капейкі. Усё гэта ўспрымаецца як належнае. Аднак мы не забываем, што бясплатная для нас медыцынская дапамога зусім не бясплатная для дзяржавы.

Колькі ж усё-такі яна каштуе? Мяркуйце самі. Адно наведанне ўрача ў паліклініцы абыходзіцца ў сярэднім 1 рубель 22 капейкі. Колькі такіх наведванняў бывае за год у 1 308 амбулаторна-паліклінічных установах рэспублікі, мы не станем падлічваць. Каля 2 мільёнаў чалавек штогод праходзяць курс лячэння ў стацыянарах. Доўжыцца ён у сярэднім 15—16 дзён. А кожны дзень знаходжання хворага ў клініцы каштуе 7—8 рублёў. Дададзім да гэтага, што ўтрыманне аднаго бальнічнага ложка ў год складае 2 216 рублёў. Гэта без уліку сродкаў, затрачаных на будаўніцтва і перыядычную рэканструкцыю бальніц. А цяпер памножым гэтую суму на агульную колькасць месцаў у стацыянарах рэспублікі — 128 тысяч. Колькі атрымаецца?

Выклік «хуткай дапамогі» абыходзіцца ў сярэднім 6—7 рублёў, спецыялізаванай брыгады — значна даражэй. Адсюль і складаецца сума, якая штогод расходуецца на забеспячэнне аховы здароўя ў рэспубліцы. У 1986 годзе яна перавысіла 600 мільёнаў рублёў.

— Бясплатнае медыцынскае абслугоўванне абыходзіцца дзяржаве дорага. Вы маглі б павялічыць зарплату і зрабіць яго платным. Чаму вы гэтага не робіце? — нярэдка пытаюцца нашы госці.

Перш чым адказаць на гэтае пытанне, мы хацелі б прывесці некаторыя лічбы і факты з міжнароднай статыстыкі.

У нас на кожнага чалавека прыпадае ў сярэднім больш за 11 наведванняў урача ў год, у ЗША — 4—5. Здавалася б, можна зрабіць вывад, што наша здароўе ў два разы горшае, чым у амерыканцаў, бо мы часцей звяртаемся да ўрача. Ці так гэта на самай справе? У нас любы грамадзянін ідзе да ўрача не толькі ў выпадку сур'ёзнага захворвання, але і пры лёгкім насмарку, павышанай тэмпературы. Мы ж за гэта не плацім. У ЗША каля 80 мільёнаў чалавек увогуле не могуць звярнуцца за медыцынскай дапамогай з-за яе дарагоўлі. Гэта акалічнасць і паляпшае статыстыку.

Калі мы гаворым аб паказчыках здароўя, то трэба мець на ўвазе, што ў нас яны прыблізна аднолькавыя для ўсіх слаёў насельніцтва. Медыцынская дапамога ў роўнай меры даступная для кожнага савецкага чалавека. Больш таго, малазабяспечаныя грамадзяне карыстаюцца ў нас і некаторымі льготамі ў медыцынскім абслугоўванні. І калі б мы павінны былі аплачваць паслугі медыцыны, то, улічваючы, што даходы сямей у нашай краіне пакуль яшчэ розныя (дзейнічае сацыялістычны прынцып аплаты працы ў залежнасці ад яе якасці і колькасці), яны не былі б у роўнай меры даступныя ўсім грамадзянам. І гэта, у сваю чаргу, вылілася б у сацыяльную няроўнасць. Людзі з большым даходам аказаліся б у лепшым становішчы ў параўнанні з тымі, чый сямейны даход меншы.

Наша мэта — поўная сацыяльная роўнасць. Таму адукацыя, жыллё, медыцына незалежна ад даходу сям'і, будучы бясплатнымі, у роўнай меры даступныя ўсім членам грамадства.

Апошнім часам у буйных гарадах адкрываюцца гаспадарчаразліковыя паліклінікі. Ці не сведчыць гэта аб нізкім узроўні медыцынскага абслугоўвання ў дзяржаўных паліклініках, цікавяцца замежныя госці.

Перш за ўсё варта адзначыць, што наяўнасць такога тыпу паліклінік нехарактэрная з'ява ў нашай медыцыне. У нас існуе толькі некалькі платных касметалагічных кабінетаў у абласных цэнтрах і дзве паліклінікі — стаматалагічная і касметалагічная ў сталіцы рэспублікі—Мінску. Літаральна ў апошнія месяцы ўзнікла некалькі кааператываў, якія аказваюць платныя медыцынскія паслугі. Існаванне платных паліклінік зусім не супярэчыць асноўнаму прынцыпу нашай сістэмы аховы здароўя — аказанню бясплатнай медыцынскай дапамогі насельніцтву.

Але іншы раз у хворых узнікае жаданне пракансультавацца ці прайсці курс лячэння ў спецыяліста больш вузкага профілю. У гэтых выпадках яны і могуць скарыстаць паслугі платных паліклінік.

Асноўная функцыя такіх паліклінік — аказанне кансультацыйна-лячэбнай дапамогі найбольш вопытнымі спецыялістамі-практыкамі. Таму яны адкрываюцца толькі ў тых гарадах, дзе ёсць медыцынскія навучальныя і навукова-даследчыя інстытуты, адкуль і запрашаюцца высокакваліфікаваныя кадры.

Такія паліклінікі мы ніяк не можам параўнаць з платнымі медыцынскімі ўстановамі ў капіталістычных краінах. Іх можна разглядаць толькі як пэўнае дапаўненне да бясплатнага абслугоўвання. Платных бальніц у нас няма зусім. У большасці ж капіталістычных краін платная медыцынская дапамога з'яўляецца вядучай, а ў некаторых — асноўным відам аховы здароўя.

Плата за аказанне паслуг у такіх нашых паліклініках нізкая, даступная ўсім жадаючым. Напрыклад, прыём у звычайнага ўрача каштуе ўсяго 50 капеек; у кандыдата навук — 2 рублі; у прафесара — 3 руб. 50 капеек.

Колькі гэта каштуе ў вашай краіне, вы добра ведаеце самі.

